# БЮЛЕТЭНЬ

Цэнтральнага Праўленьня Профэсыянальнага Саюзу сельска-гаспадарчых і лясных рабочых Б.С.С.Р.

г. Менск, Пляц Волі Дом Працы
Тэлефон: Старшыні ЦП № 4-08. Агульны № 65.

ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ

(Галоўныя пастановы Прэзыдыуму, дырэктывы Цэнтральнага Праўленьня, інфармацыя, адказы на запытаньні).

№ 9 (27) | 25-га ЛІПЕНЯ 1929 году | № 9 (27)

## ЗЬМЕСТ

### А. Пастановы Прэзыдыуму ЦП



### Б. Дырэктывы ЦП і вышэйшых савецкіх органаў.



## А. Пастановы Прэзыдыуму ЦП.

### 1) Аб практычных мерапрыемствах па садзейнічаньню ў рабоце па ўцягненьню рабоча-батрацкай моладзі ў комсамол.

Генэральная лінія нашай партыі—лінія напруджанага тэмпу індустрыялізацыі краіны, уздыму і калектывізацыі сельскай гаспадаркі, узмацненьне саюзу пролетарыяту з асноўнымі масамі сялянства, апора на беднату і батрацтва і рашучая барацьба з кулаком, ставіць перад саюзам сельска-гсспадарчых і лясных рабочых задачу самай актыўнай дапамогі па ўзмацненьню клясавых пазыцый партыі і комсамолу на вёсцы праз уцягненьне рабоча-саўгаскай моладзі ў шэрагі ЛКСМБ.

Адзначаючы вельмі нязначны процант рабоча-саўгаскай моладзі ў шэрагах ЛКСМБ і слабы прырост гэтай лічбы за кошт батрацтва: на 1-ае студзеня 1928 г. з агульнага ліку комсамольцаў—64796 батракоў і рабочых саўгасаў было толькі 4150 чал., на студзень 1929 г. гэта лічба павялічылася ўсяго да 5397 чал., што складае 8 проц.. агульнаму ліку комсамольцаў і зьяўляецца вельмі малай пры наяўнасьці рэзэрву ў 60000 батрацтва і патрабуе ад нашай саюзнай організацыі максімальнай увагі ў узмацненьні гэтай працы.

Кіруючыся асноўнымі плянавымі заданьнямі саюзу на гэты—1929 г. садзейнічаць комсамолу ў рабоце па ўцягненьню ў шэрагі ЛКСМБ рабоча-батрацкай моладзі, паставіўшы мэту падрыхтаваць да ўступленьня ў комсамол ня менш,

як—6000 чал. рабоча-батрацкай моладзі, у тым ліку ня менш 2000 дзяўчат, Прэзыдыум ЦП саюзу сельгаслесрабочых дзеля ажыцьцяўленьня гэтага заданьня прапануе правесьці наступныя практычныя мерапрыемствы:

1. Усім Саюзным організацыям, усяму саюзнаму актыву праводзіць сыстэматычную работу па аказаньні садзейнічаньня комсамольскім організацыям у рабоце па ўцягненьню рабоча-батрацкай моладзі ў шэрагі ЛКСМБ.

2. Выявіць больш актыўных і вытрыманых таварышоў з батрацтва, прымаўшых удзел у профэсыянальнай працы, у працы грамадзкіх організацый, таксама з рабочых саўгасаў, асабліва броньвучняў, сьвядома працуючых на вытворчасьці, і пачаць з імі сыстэматычную палітыка-выхаваўчую працу.

3. Прыблізіць гэтых рабочых і батракоў да комсамольскіх організацый, наладзіць з імі належную сувязь, скласьці такія ўмовы, каб яны маглі акуратна наведваць комсамольскія сходы і гурткі пры ячэйках ЛКСМБ.

4. Садзейнічаць органам комсамолу ў організацыі новых комсамольскіх ячэек у тых мясцох, дзе ў наяўнасьці маецца база далейшага росту за лік батрацтва і беднаты, а таксама ў больш буйных саўгасах, дзе маецца моладзь.

5. У тых мясцох, дзе няма блізка комсамольскіх ячэек, уцягваць рабоча-батрацкую моладзь у профпалітгурткі, якія павінны быць організаваны на аснове ранейшай пастановы Прэзыдыуму ЦП (Бюл. № 6 (24) і ў праграму работы якіх уключыць пытаньні комсамольскае палітадукацыі.

6. У праграмах батрацкіх цэнтральных курсаў пашырыць разьдзел пра ролю і задачы ЛКСМБ.

7. Асаблівую ўвагу ўдзяліць на выяўленьне і зыхаваньне сельгаслесработніц і батрачак, якія могуць быць прыняты ў шэрагі ЛКСМБ, разгарнуўшы сярод іх культурна-выхаваўчую і антырэлігійную працу.

8. Найлепшай падрыхтоўкай рабоча-батрацкай моладзі да ўступленьня ў шэрагі ЛКСМБ павінна быць рашучае прыцягненьне іх да актыўнае профсаюзнае і грамадзкае работы і клясавае выхаваньне іх.

9. Асноўным абавязкам кіруючых саюзных работнікаў і раённых інструктароў пры наведваньні нізовых саюзных організацый, і асабліва сельрабачкомаў, павінна быць організацыя работы па клясаваму выхаваньню рабоча-батрацкай моладзі і практычная дапамога ў гэтай рабоце.

10. Усе саюзныя організацыі павінны прадугледжваць у плянах сваей працы выкананьне пастаноў Прэзыдыуму і плянавага заданьня ЦП па падрыхтоўцы рабоча-батрацкай моладзі да ўступленьня ў шэрагі ЛКСМБ.

11. Даручыць рэдакцыі „Бел. Батрак“. у большай меры асьвятляць комсамольскае жыцьцё, зьвязацца з рэдакцыяй „Чырвоная Зьмена“ і праз друк групаваць увагу рабоча-батрацкай моладзі навакол работы комсамолу і неабходнасьці яе ўзмацненьня шляхам папаўненьня комсамольскіх шэрагаў новымі пролетарскімі кадрамі.

12. Прасіць ЦК ЛКСМБ зьвярнуць увагу вясковых ячэяк ЛКСМБ на ўцягненьне рабоча-батрацкай моладзі ў шэрагі ЛКСМБ.

**2. Аб дапамозе членам саюзу, абраным у сельсаветы і коопэрацыю, у іх рабоце.**

Адзначыць, што ў выніку праведзенай саюзам падрыхтоўчай працы да ўдзелу сельгаслесрабочых у перавыбарах саветаў і органаў коопэрацыі, павысілася актыўнасьць сельгаслесрабочых у правядзеньні гэтай кампаніі, што выразілася ў павялічэньні колькасьці прысутнічаўшых сельгаслесрабочых на справаздачна-перавыбарчых сходах з 60 да 80 проц. Колькасьць абраных у склад с/саветаў павялічылася з 1234 да 3223 чал., у тым ліку колькасьць батракоў павялічылася з 418 да 1358. На платную работу вылучана 154 чал. У час перавыбараў сельгаслесрабочыя выступалі пад кіраўніцтвам партыі супольна з беднатою, у саюзе з серадняком супроць кулака.

У мэтах уцягненьня сельгаслесрабочых, абраных у саветы і органы коопэрацыі, у практычную работу гэтых установ і замацаваньня іх на гэтай рабоце, што забясьпечыць пролетарскі ўплыў у

рабоце нізавых савецкіх і коопэрацыйных органаў, Прэзыдыум ЦП пастанаўляе правесьці наступныя мерапрыемствы па аказаньню дапамогі сельгаслесрабочым, абраным у савецкія і коопэрацыйныя органы:

1. Паставіць перад ЦВК пытаньне аб пасылцы ўсіх сельгаслесрабочых, вылучаных на платную работу ў с/саветы, на акруговыя курсы работнікаў сельсаветаў.

2. Прасіць ЦВК організаваць спэцыяльныя курсы для батракоў і сельгаслесрабочых, абраных у савецкія органы, у мэтах падрыхтоўкі іх да вылучэньня на платную работу ў савецкія органы (с/с., РВК, АВК, ЦВК).

3. Паставіць пытаньне перад Белкоопсаюзам і Белсельсаюзам аб організацыі курсаў ня менш як на 200 чал. для падрыхтоўкі коопэрацыйных работнікаў з сельгаслесрабочых і батракоў, пры чым курсы гэтыя павінны быць праведзены па сканчэньні перавыбараў органаў коопэрацыі.

4. Даручыць оргаддзелу канчаткова падагуліць вынікі ўдзелу саюзу ў перавыбарах РВК, АВК, ЦВК і органаў коопэрацыі і супольна з Культаддзелам прыступіць да падбору кандыдатур для вылучэньня на адказную работу ў РВК, АВК і цэнтральныя савецкія і коопэрацыйныя ўстановы.

5. Улічваючы наяўнасьць фактаў адмаўленьня сельгаслесрабочых ісьці на платную работу ў с/с у сувязі з пагаршэньнем матэр'яльнага становішча, прасіць ЦВК, прыняць меры да ўрэгуляваньня гэтага пытаньня ў бок палепшаньня матэр'яльнага становішча сельгаслесрабочых, вылучаных на платную работу ў с/саветы.

6. Рабачкомам і Акраддзяленьням саюзу ўстанавіць цесную сувязь з сельгаслесрабочымі, абранымі ў склад савецкіх і коопэрацыйных органаў. Супольна з РВК і коопэрацыйнымі організацыямі практыкаваць правядзеньне раённых нарад сельгаслесрабочых, абраных і вылучаных на платную работу ў с/саветы і органы коопэрацыі для інструктаваньня іх па пытаньнях савецкае і коопэрацыйнае работы, заслухоўваючы на гэтых нарадах даклады сельгаслесрабочых аб іх рабоце ў саветах і коопэрацыі.

7. Да 1/VIII г.г. рабачкомам заслухаць даклады сельгаслесрабочых, працуючых на платнай і няплатнай рабоце ў с/саветах і органах коопэрацыі, на сходах рабочых і батракоў і намеціць практычныя мерапрыемствы па аказаньню ім дапамогі ў рабоце. Асьвятліць работу сельгаслесрабочых, працуючых у с/с і коопэрацыі ў насьценных газэтах і газэце „Бел. Батрак“.

8. Аднэй з лепшых форм дапамогі сельгаслесрабочым, абраным у с/саветы, зьяўляецца прыцягненьне сельгаслесрабочых (ня членаў с/с) да работы ў сэкцыях с/с на дабраахвотных падставах, пагэтаму Акраддзяленьням і рабачкомам саюзу разгарнуць работу па ўцягненьню ў работу сэкцыі пры с/с дабравольцаў з сельгаслесрабочых.

### 3. Аб рабоце вытворчых нарад па лесараспрацоўках і сплаве.

1. Адзначаючы поўнае адсутнічаньне працы вытворчых нарад і комісій на лесараспрацоўках і сплаве, дзякуючы чаму зацікаўленасьць рабочых у вытворчасьці, вытворчае выхаваньне рабочых пастаноўлена вельмі слаба, слабы удзел спэцыялістых у рабоце вытворчых нарад, Прызыдыум ЦПСаюзу пастанаўляе:

2. Прапанаваць усім Акруговым Аддзяленьням, раінструктарам і рабачкомам на лесараспрацоўках і сплаве, організаваць пры рабачкомах вытворчыя нарады і комісіі па наступнаму прынцыпу.

3. Вытворчыя нарады організуюцца з прадстаўнікоў:

а) мясцовых органаў саюзу (рабачкомаў);

б) рабочых—лесарубаў, сплаўшчыкаў і тэхнічн. пэрсаналу;

в) прадстаўніка гаспадарчых органаў і

г) добраахвотн. удзельнікаў рабочых.

4. Для папярэдняй прапрацоўкі пытаньняў, выносячыхся на абгаварэньне вытворчых нарад, а роўна для нагляду і садзейнічаньня правядзеньню ў жыццё пастановы вытворчых нарад—пры рабачкомах організуюцца вытворчыя комісіі з прадстаўнікоў:

а) рабачкому—ён жа старшыня вытворчай комісіі;

б) тэхнічна-адміністрацыйнага пэрсаналу;

в) асобных рабочых—лесарубаў, сплаўшчыкаў.

5. Рабоце вытворчых нарад і комісій прыдаць строга плянавы характар, праводзячы не радзей аднаго разу ў месяц, уцягваючы ў працу іх усіх рабочых, тэхнічны пэрсанал і спэцыялістых.

6. Вытворчыя комісіі, а там дзе іх няма, рабачком з актывам павінны ў працягу 2-х тыдняў прапрацаваць пытаньне і на вытворчую нараду вынесьці ўжо прапрацованы матэр'ял і праэкт рашэньня.

7. Кожны рабачком на лесараспрацоўках і сплаве павінен у аснову працы вытворчых нарад паставіць канкрэтныя наступныя задачы:

### На лесараспрацоўках

1) Павялічыць прыбытковасьць прадуктаў вытворчасьці на 5 проц.

2) Зьнізіць сабекаштоўнасьць прадуктаў вытворчасьці на 5 проц. Зьнізіць накладныя выдаткі.

3) Распрацаваць і вышукаць спосабы мэханізацыі лесараспрацовак і вывазкі і рацыяналізацыі распрацоўкі драўніны.

4) Пытаньні організацыі рабочай сілы; пытаньні снабжэньня, прадстаўленьне інструмэнтаў, жылбудаўніцтва і г. д.

### На сплаве.

1) Удзешавіць сабекаштоўнасьць сплаву на 5 проц.

2) Абгаварэньне пытаньня аб'яднаньня сплаву ў адзін гаспадарчы орган.

3) Мэханізацыя сплаву і выгрузкі і рацыянальнае скарыстоўваньне прыслужнага матэр'ялу.

4) Пытаньне аб кваліфікаваннай рабочай сілы на сплаве, снабжэньне прадуктамі, жылбудаўніцтва і г. д

На падставе асноўных задач праца вытворчых нарад і комісій практычна павінна быць пабудавана ў напрамку абгаварэньня і вырашэньня наступных асноўных пытаньняў.

### На лесараспрацоўках:

1) Прапрацаваць вытворчыя пляны і грашовыя каштарысы лесанарыхтоўчых вучасткаў на 1929/30 г., як частку пяцігодкі па ўсіх галінах вытворчасьці (нарыхтоўка, вывазка, рэалізацыя) у напрамку шырокага азнаямленьня і вывучэньня ўсімі рабочымі і служачымі і канкрэтызацыі іх з заўвагамі апошніх.

2) Прапрацаваць мерапрыемствы падрыхтоўкі да організацыі лесанарыхтовак, своечасовага адводу лесасек, устанаўленьне аб'ему работы вучастка, устанаўленьне тэх.-адм. штату на лесараспрацоўках.

3) Абгаварэньне і прапрацоўка пытаньня мэханізацыі лесараспрацовак як па лесанарыхтоўках, так і па вывазцы і рацыянальнае скарыстаньне і распрацоўка драўніны (павялічэньне выхаду якаснай драўніны да максімуму, палепшаньне дарог, устанаўленьне бліжэйшых складаў, прыстані, сарціроўка на прыстанях, маркіроўкі ў лесе і ахова лесу).

4) Пытаньне ўскарэньня і аблягчэньня мэтадаў прыёму ў лесе, прыстанях, а таксама мэтад выпіскі квітанцыі і разліку з рабочымі ў напрамку скарачэньня ўсіх гэтых працэсаў.

5) Абгаварыць і прапрацаваць рабочыя пытаньні ў напрамку:

а) Організацыі арцеляў з беспрацоўных і батрацтва членаў Саюзу.

б) Забесьпячэньне рабочых на лесараспрацоўках прадуктамі харчаваньня (організацыя грамадзкага харчаваньня) і інструмэнтамі.

в) Аб жылбудаўніцтве (устанаўленьне месц і памера ў пабудовы баракаў).

6) Прапрацаваць пытаньне зьдзельшчыны і нормы выпрацоўкі на ўсякія работы (улічваючы асартымэнт і пароды драўніны) на кожную адзінку, выходзячы з мясцовых умоў (сплашная рубка, праходная рубка, недарубы і г. д.).

7) Абгаварыць пытаньне вылучэньня рабочых на кіруючую працу ў лесанарыхтоўчыя органы, намячэньня кандыдатур і абгаварэньне іх на вылучэньне.

### На сплаве.

1) Абгаварыць пытаньне аб'яднаньня сплаву ў адзін гаспадарчы сплаўны орган.

2) Прапрацаваць мерапрыемствы своечасовай падрыхтоўкі сплаўных прыпасаў і інвэнтару і іх рацыянальнага скарыстоўваньня. Пытаньне зьвязкі плытоў і ўзмацненьне прыстаней.

3) Абгаварыць і вышукаць мерапрыемствы мэханізацыі сплаву ў напрамку аблягчэньня і павялічэньня грузапад'емнасьці сплаву ускарэньне праходжаньня сплаву, зьменшаньне ўтопаў, разгрузка рэк, сваечасовасьць і мэханізацыя разгрузкі.

4) Абгаварэньне пытаньня штату на сплаве, устанаўленьне зьдзельшчыны і норм выпрацоўкі як на прыстанях (вязка, скатка), так і на сплаве.

5) Абгаварыць і распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы па рабочым пытаньні ў напрамку:

а) наём рабсілы на сплаве, організацыі і падрыхтоўкі кваліфікаванай рабсілы на сплаве з мясцовага батрацтва;

б) забесьпячэньне прадуктамі харчаваньня, організацыя спэцыяльных лавак і ларкоў на прыстанях;

в) жылбудаўніцтва на сплаве, дзе, на якіх прыстанях, якога разьмеру, на якую колькасьць рабочых будаваць баракі.

6) Адміністрацыя лесазагатоўчых і сплавных вучасткаў павінна патрэбны матэр'ял па тым ці іншым пытаньням, прызначаным па пляну для абгаварэньня на вытворчай нарадзе, прадставіць рабачкому, ці вытворчай комісіі за 2—3 тыдні.

7) Рабачкомы павінны завесьці строгі вучот прапаноў аддзельных таварышоў, рашэньняў вытворчых нарад і выкананьня адміністрацыяй, зьвярнуўшы ўвагу на яскравасьць фармуліраваньня прапаноў рабочых у пратаколе, а таксама і на тое, каму даручаецца выкананьне і к якому тэрміну.

8) Даручыць усім гаспадарчым органам забясьпечыць лесанарыхтоўчыя і сплаўныя вучасткі кнігамі вучоту аб рабоце вытворчых нарад і комісій па форме, распрацаванай ЦП Саюзу, і даць дырэктывы мясцом аб удзеле і садзейнічаньні ў рабоце вытворчых нарад на мясцох гаспадарчых органаў.

9) Абавязаць усіх работнікаў саюзных і гаспадарчых органаў, выязжаючых на працу ў пэрыфэрыю лесанарыхтоўчых і сплаўных работ, правераць кнігі вучоту, а гэтым самым і працу вытворчых нарад, іх выконваемасьць рашэньняў вытворчых нарад і даваць належныя паказаньні. Аб усіх нявыкананых рашэньняў вытворчых нарад давесьці да ведама ЦП саюзу і РСІ.

10) Усім рабачкомам распрацаваць каляндарны плян вытворчых нарад і комісій па прыкладу прыкладзенага да гэтага пляну, выходзячы з мясцовых умоў працы.

◆◆◆◆◆◆

# Прыкладны плян працы вытворчых нарад.

## НА ЛЕСАРАСПРАЦОЎКАХ.

| №№ па парадку | Назва пытаньняў, разглядаемых на вытворчых нарадах | Калі прадстаўлен патрэбн. матэр'ял адміністрацыі | Тэрмін падрых. пытаньня ў комісіі ці актыве | Калі абгаварваецца пытаньне | Хто дакладвае па гэтым пытаньні |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Прапрацаваць мерапрыемствы падрыхтоўкі да організац. лесанарыхтовак (сваечасовага адводу лесасек, устанаўленьне аб'ему работы вучастк., устанаўл. штату на лесанарыхтоўках) . . . | 1/VII | 1—14/VII | 15/VII | т. ............ |
| 2 | Прапрацаваць вытворчыя пляны і грашовыя каштарысы лесанарыхтоўчых вучасткаў на 1929/30 г., як частку 5-цігодкі па ўсіх галінах вытворчасьці (нарыхтоўка, вывазка, рэалізацыя) . . | 1/VIII | 1—14/VIII | 15/VIII | т. ............ |
| 3 | Абгаварыць і прапрацаваць пытаньні мэханізацыі лесараспрацовак, як па лесанарыхтоўках, так і па вывазцы і рацыянальнгe скарыстаньне драўніны (павялічэньне максімума выхаду і якасьці драўніны, палепшаньне дарог, устанаўнаўленьне бліжэйшых складаў і прыстаней, сарціроўка на прыстанях, маркіроўка ў лесе і ахова лесу) . . . | 1/IX | 1—14/IX | 15/IX | т. ............ |
| 4 | Абгаварыць і прапрацаваць рабочыя пытаньні:<br>а) організацыя арцеляў з беспрацоўных членаў саюзу і батрацтва;<br>б) забесьпячэньне рабочых на лесараспрацоўках прадуктамі харчаваньня (організацыя грамадзкага харчаваньня);<br>в) забесьпячэньне інструмэнтамі (сваечасова і дабраякаснымі);<br>г) аб жылбудаўніцтве (устанаўленьне месц, разьмеру пабудовы баракаў) . | 1/X | 1—14/X | 15/X | т. ............ |
| 5 | Прапрацаваць пытаньні зьдзельшчыны і нормы выпрацоўкі на ўсякія работы на кожную адзінку . . . | 1/XI | 1—14/XI | 15/XI | т. ............ |
| 6 | Прапрацаваць пытаньне ўскарэньня і аблягчэньня мэтадаў прыёму ў лесе, прыстанях лесаматэр'ялаў ад рабочых, а таксама выпіску квітанцый і разьліку з рабочымі ў напрамку скарачэньня ўсіх гэтых працэсаў . . . . . | 1/XII | 1—14/XII | 15/XII | т. ............ |

| №№ па парадку | Назва пытаньняў, разглядаемых на вытворчых нарадах | Калі прадстаўлен патрэбн. матэр'ял адміністрацыі | Тэрмін падрых. пытаньня ў комісіі ці актыве | Калі абгаварваецца пытаньне | Хто дакладвае па гэтым пытаньні |
|---|---|---|---|---|---|
| 7 | Прапрацаваць пытаньне вылучэньня рабочых на кіруючую працу ў лесанарыхтоўчыя органы . . . . | 1/I | 1—14/I | 15/I | т. |
| | **На сплаве.** | | | | |
| 1 | Абгаварыць пытаньне аб аб'яднаньні сплаву ў адзін гаспадарчы сплаўны орган . . . . . . . | 1/II | 1—14/II | 15 II | т. |
| 2 | Прапрацаваць мерапрыемствы своечасовай падрыхтоўкі сплаўных прыпасаў і інвэнтару і іх рацыянальнага скарыстаньня. Пытаньне зьвязкі плытоў і ўзмацненьне прыстаней . . . . | 1/II | 1—14/II | 15/II | т. |
| 3 | Абгаварыць і вышукаць мерапрыемствы мэханізацыі сплаву (аблягчэньне і павялічэньне грузападʻёмнасьці сплаву, ускарэньне праходжаньня сплаву, разгрузка рэк, паменш.ньне ўтопу, своечасовая выгрузка і мэханізацыя выгрузкі . . . . . . . | 1/III | 1—14/III | 15/III | т. |
| 4 | Абгаварэньне пытаньня штату на сплаве, устанаўленьне зьдзельшчыны і нормы выпрацоўкі, як на прыстанях (вязка, скатка), так і на сплаве . . | | | | |
| | Прапрацаваць мерапрыемствы па рабочых пытаньнях: | | | | |
| | а) наём рабсілы на сплаве, організацыя падрыхтоўкі кваліфікаванай рабсілы на сплаве з мясцовага батрацтва; | 1/IV | 1—14/IV | 15/IV | т. |
| | б) забесьпячэньне прадуктамі харчаваньня, організацыя спэцыяльных лавак і ларькоў на сплаве; | | | | |
| | в) жылбудаўніцтва на сплаве, дзе, на якіх прыстанях, якога разьмеру і на якую колькасьць рабочых будаваць баракі . . . . . . . | | | | |
| 5 | Абгаварэньне пытаньня вылучэньня на кіруючую работу рабочых—сплаўшчыкаў (намячэньне кандыдатур і абгаварэньне іх) . . . . . | 1/V | 1—14/V | 15/V | т. |

**4. Аб організацыі масавых вытворча-саюзных курсаў у саўгасах, на торпараспрацоўках і лясніцтвах.**

**1. Па саўгасах Белсельтрэсту.**

Організаваць каротка-тэрміновыя 3-х тыднёвыя вячэрнія курсы ва ўсіх саўгасах. Праз курсы павінны прайсьці ўсе штатныя рабочыя саўгасаў.

Прагарама курсаў, прыкладна, 72 гадзіны па 4 гадзіны ў дзень.

Для забесьпячэньня нармальных заняткаў курсаў з боку БСТ неабходна наступнае:

1. Усіх рабочых, якія будуць займацца на курсах, аслабаніць на 2 гадзіны ад вытворчай працы.

2. Адпусьціць сродкі для аплаты выкладчыкаў, непрацуючых у саўгасе з разрахунку па 1 р. за гадзіну.

3. Забясьпечыць курсы дастатковай колькасьцю вучэбных прыладаў і падручнікаў.

4. Сваечасова прапрацаваць праграму курсаў, узгадніць яе з ЦП Саюзу. Прынцыпова ў праграму павінна ўвайсьці наступнае:

а) Соцыяльна-эканомічныя дысцыпліны;

б) Спэцыяльныя дысцыпліны;

в) Вытворча-эканомічныя;

г) Калгасы, коопэрацыя і вытворчае аб'яднаньне.

УВАГА: Пытаньне падвышэньня ўраджайнасьці павінна быць прапрацована пры прапрацоўцы пяцігодкі.

Курсы павінны праводзіцца ў тэрмін —сьнежань, студзень, люты.

5. Аналёгічныя 3-х тыднёвыя курсы неабходна правесьці ва ўсіх саўгасах Менсельпрому, НДІ і ў Лошыцы.

**II. Па лясніцтвах.**

1) Організаваць каротка-тэрміновыя вытворчыя курсы для пераквалифікацыі лясной варты пры лясніцтвах, найбольш забясьпечаных тэхнічным пэрсаналам, які магчыма скарыстаць у якасьці выкладчыкаў.

Трэба разьлічыць, каб на працягу 2-х год праз вытворча-тэхнічныя курсы прапусьціць усю лясную варту.

2) Для пераквалифікацыі аб'ежчыкаў організаваць 14 вытворчых курсаў працягам на 2 месяцы, колькасьцю слухачоў ня больш 30 па акругох—Аршанскай і Віцебскай па 1-х курсах, па астатніх—па 2 курсаў.

3) Расп ацаваць у працягу аднаго месяца праграму, у якую павінны быць уключаны наступныя дысцыпліны:

а) Соцыяльна-палітычныя;

б) Спэцыяльныя (лесагадоўля, лесанарыхтоўкі, дагляд за лесам, падсочка і ахова лесу);

в) Ахова працы.

4 Вытворчыя курсы для лясьнікоў організаваць працягам у 3 тыдні ў кожным лясьніцтве. Праз курсы прапусьціць каля двох тысяч чалавек, ці 50 проц. лясьнікоў, пры кожным лясьніцтве па 1 курсах каля 10 чал.

5) Праграму курсаў пабудаваць так, каб служачыя маглі атрымаць кароткія агульныя палітычныя веды і спэцыяльныя лясныя веды, кіруючыся па спэцыяльных дысцыплінах падручнікам „15 лекцый для лясной варты".

6) Вытворчыя курсы для аб'ежчыкаў і лясьнікоў праводзіць, галоўным чынам, у лесе, скарыстоўваючы ў якасьці пасобнікаў жывыя об'екты лесу, у пэрыяд магчымасьці зьняцьця іх з працы, каб не адбілася гэтае на вытворчасьці.

7) Організаваць вытворчыя курсы для дзесятнікаў па лесараспрацоўках, працягам ня менш, як 2 месяцы, у адным з лясніцтв у БССР, найбольш забясьпечаным усімі ляснымі пародамі, у колькасьці 30 асоб.

8) Вытворчыя курсы для пераквалифікацыі лясных працаўнікоў лічыць найбольш мэтазгодным праводзіць у летні і вясеньні пэрыяд—ліпень-верасень.

9) Організаваць вытворчыя курсы для майстроў па падсочцы, працягам 2 месяцы, колькасьцю на 30 асоб.

**III. Па торпараспрацоўках.**

1) У 8 пунктах: Бабруйск—Новая Беларусь, Віцебск—Дымаўшчына, Барысаў—Чырвоны Кастрычнік, Эльвод, Гомель—Добруш, Міхановічы, Асінабуд організаваць каротка-тэрміновыя 3-х тыднёвыя курсы з разьлкамі на 36 гадзін, па 2 гадзіны ў дзень.

2) На курсы вербаваць у першую чаргу мясцовую рабочую сілу батракоў і членаў саюзу. Кожныя курсы павінны быць разьлічаны на 100-120 чалавек, па групах 30-40 чал.

3) На ўтрыманьне курсаў установы, у веданьні якіх знаходзяцца торпараспрацоўкі, павінны будуць адпусьціць па 300-360 руб. на закупку вучэбных прыладаў, падручнікаў і аплату выкладчыкаў.

4) Курсы павінны быць праведзены на працягу сэзону.

**5. Аб правядзеньні справаздач членаў саюзу, абраных у сельсаветы і органы коопэрацыі.**

Для ўзмацненьня актыўнага ўдзелу сельгаслесрабочых і батрацтва ў рабоце сельсаветаў і органах коопэрацыі, а гэтым самым і кіруючай ролі з боку н/саюзу ў соцыялістычным будаўніцтве вёскі, Прэзыдыум ЦП Саюзу сельгаслесрабочых пастанаўляе:

1) Наладзіць сталыя справаздачы сяброў н/ саюзу, абраных у сельсаветы і органы коопэрацыі, аб працы сельсаветаў і коопэрацыі і аб іх удзеле ў працы гэтых органаў перад шырокімі масамі сельгаслесрабочых і батрацтва на агульных сходах.

2) Першыя справаздачы правесьці ў тэрмін з 1-га жніўня па 1-ае кастрычніка г. г., для чаго кожны рабачком і сельрабачком павінны гэту работу ўключыць у свой плян работы. У далейшым гэтыя справаздачы павінны праводзіцца праз кожныя тры месяцы ў строга плянавым парадку.

3) Кожны рабачком і сельрабачком, ад якога абраны сябра саюзу ў сельсавет ці коопэрацыю, павінен патрабаваць ад апошняга справаздачу аб працы сельсавета ці коопэрацыі і ўдзеле ў іх працы самога абранага, незалежна ад таго, зьяўляецца абраны таварыш сталым платным работнікам, ці не. Апрача таго, кожны абраны павінен зрабіць справаздачу ў суседнім рабачкоме ці сельрабачкоме, ад якога няма абраных у с/ савеце і коопэрацыі. Кожны рабачком і сельрабачком павінен паведаміць абранага таварыша аб часе і калі будзе агульны сход, на якім стаіць яго справаздача, за 2-3 тыдні.

4) Для таго, каб лепш ускрыць усе добрыя і дрэнныя бакі працы с/ саветаў і коопэрацыі, рабачкомы і сельрабачкомы павінны як належа быць падрыхтаваць Саюзную і рабочую масу для гэтых справаздач, для чаго ня менш як за два тыдні шырока апавяшчаць аб'явамі, у сценгазэце і г. д. аб дню і часе сходаў, на якіх будуць стаяць справаздачы аб працы сельсавета і коопэрацыі.

5) Акраддзяленьні, праз інструктароў, знаходзячыхся ў раёне, павінны зьвярнуць падвойную ўвагу гэтай рабоце і практычна дапамагчы рабачкомам і сельрабачкомам і абраным таварышам у сельсаветы, праўленьні і ўпаўнаважанымі коопэрацыі ў правядзеньні гэтага мерапрыемства, накіраванага на замацаваньне сувязі і сумеснай работы сельгаспадарчага пролетарыяту з сельсаветам і коопэрацыяй, а гэтым самым і ўзмацненьня саюзу з серадняцкім сялянствам.

6) Даручыць Оргаддзелу Ц.П. распрацаваць і ўзгадніць з Ц.В.К. пералік пытаньняў справаздач с/ саветаў, па якім абраныя таварышы і павінны будуць адчытвацца на агульных сходах сяброў саюзу і рабочых.

7) Неабходна работу сельсаветаў і коопэрацыі і практычны ўдзел абраных таварышоў у рабоце сельсавету і коопэрацыі, а таксама справаздачы і пастановы па іх агульных сходаў сельгаслесрабочых асьвятляць у газэце „Беларускі Батрак“.

**6. Аб удзелу Саюзу ў культ-масавай рабоце Белкоопсаюзу на вёсцы.**

Заслухаўшы даклад тав. Баград, Прэзыдыум ЦП Саюзу пастанаўляе:

1) Паслаць з рэзэрву вылучэнцаў на адчыняемыя з 1/IX г. г. 5-цімесячныя курсы для падрыхтоўкі адказных працаўнікоў спажывецкай коопэрацыі 40 асоб і батракоў і с.-г. рабочых, якія павінны быць забясьпечаны Б.К.С. харчаваньням, інтэрнатам і стыпэндыяй для нежанатых 10 руб. і для жанатых 30 р. у месяц.

2) Паслаць за кошт Б.К.С. на падрыхтоўчыя курсы ў коопэрацыйнае аддзяленьне ВНУ 10 батракоў, забясьпечыўшы іх стыпэндыяй БКС 30-40 руб. у месяц.

3) Паслаць на адчыненыя БКС жаночныя курсы 30 батрачак і работніц саўгасаў, забясьпечыўшы іх неабходнай стыпэндыяй за кошт БКС.

4) Прасіць БКС адчыніць 8 гадавых ясьляў у больш буйных саўгасах.

5) Прасіць БКС выдзеліць з фонду для ліквідацыі няпісьменнасьці па БССР ня менш 10.000 руб. для пабудовы лікпунктаў няпісьменнасьці для рабочых саўгасаў, батрацтва і інш.

6) Устанавіць ня менш 8-мі радыёўстановак у саўгасах і правесьці паказальную кооппрацу ня менш, як па 2-м саўгасам у кожнай акрузе.

7) Організаваць за сродкі БКС па аднэй бібліатэцы-перасоўкі для кожнай акругі.

8) Абслугоўваць кіно перасоўкамі БКС ня менш аднаго разу ў 3 месяцы ўсе нізавыя ячэйкі нашага саюзу і 1раз у месяц буйныя саўгасы за плату ня ніжэй 5 кап. з чалавека.

9) Абслугоўваць радыё і кіно-мэханікамі БКС па асобай згодзе нашы радыё-ўстаноўкі і кіно-перасоўкі.

10) Культаддзелу ЦП правесьці разьвёрстку кандыдатаў на курсы па акругам і даручыць Акруговым Аддзяленьням Саюзу, разам з аддзяленьнямі Белкоопсаюзу правесьці адбор лепшых кандыдатаў з рэзэрву вылучэнцаў на коопэрацыйную працу.

11). Прыняць удзел у праверцы працы па коопасьвеце ў саўгасах.

12) Прасіць БКС на наступны год улічыць у сваіх плянах коопэрацыйна масавай работы членаў н/ саюзу сельгаслесрабочых і батракоў, узгодніўшы практычныя мерапрыемствы з ЦП саюзу

## Б. Дырэктывы ЦП і вышэйшых савецкіх органаў.

### 1) Аб узмацненьні дзейнасьці Саветаў і Райвыканкомаў па абароне батрацтва. (7-VI-1929 г. №351,96/ 227)

Усім Акруговым Выканаўчым Комітэтам.

Дзейнасьць сельсаветаў і райвыканкомаў па нагляду за выкананьнем законадаўства аб умовах працы сельскагаспадарчых рабочых і абароне інтарэсаў батрака ў вёсцы яшчэ вельмі слабая, а ў часцы сельсаветаў зусім нічога ня робіцца ў гэтым напрамку, чаму наглядаюцца масавыя парушэньні законаў аб умовах працы наёмных рабочых у сялянскіх гаспадарках, асабліва ў кулацкіх.

Спробы вясковага кулацтва перашкодзіць выкананьню законаў аб працы батрацтва, пагоршыць яго становішча, зьяўляюцца часткай агульнай барацьбы кулацтва супроць мерапрыемстваў савецкае ўлады ў вёсцы, а таму ўзмацненьне абароны батрацтва і нагляд за выкананьнем законаў аб працы батрацтва зьяўляецца аднэй з важнейшых і чарговых задач сельскіх органаў: Сельсаветаў, Райвыканкомаў і АВК.

Выходзячы з гэтага, Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Комітэту прапануе ўсім АВК:

1) Дабіцца таго, каб кожны сельсавет і райвыканком работу па абароне батрацтва і пастушаства ўключаў у агульны плян сваёй работы і сыстэматычна праводзіў.

2) На сходах грамадзян кожнай вёскі, на пленумах кожнага сельсавету дакладна растлумачваць зьмест і практычны парадак выкананьня „Часовых правіл аб умовах дапаможнай наймовай працы ў сялянскіх гаспадарках", „інструкцыі" да іх, пастановы НКПБ аб умовах працы грамадзкіх пастухоў, законаў аб соцыяльным страхаваньні батрацтва і асабліва пастановы ЦВК і СНК С. С. С. Р. ад 20 лютага г.г. „Аб парадку прымяненьня Кодэксу законаў аб працы ў кулацкіх гаспадарках".

3) Організаваць і наладзіць работу ў кожным сельсавеце сярод членаў, вызначаных для работы па ахове батрацтва ў адпаведнасьці з пастановай Прэзыдыуму ЦВК БССР ад 19/IV г.г. і праз іх рабіць праверку, ці заключаны і зарэгістраваны кожным з наймальнікаў сялян працоўныя дагаворы, і як апошнія выконваюцца імі, і прыцягваць

да адміністрацыйнай альбо судовай адказнасьці ўсіх парушыцеляў працоўнага законадаўства.

4) Наладзіць нагляд з боку сельсаветаў за тым, каб грамадзяне, якія наймаюць грамадзкіх пастухоў і падпаскаў, выбіралі ўпаўнаважаных для заключэньня дагавораў. Абавязаць сельсаветы перад рэгістрацыяй гэтых дагавораў рабіць праверку адпаведнасьці іх існуючаму законадаўству аб найме рабочай сілы.

5) Наладзіць інструктаваньне і праверку работы сельсаветаў і райвыканкомаў па абароне батрацтва праз інструктарскі склад выканаўчых комітэтаў, праз раённых упаўнаважаных па працы і сельска-гаспадарчых інструктароў. Райвыканкомам рэгулярна праводзіць інструкцыйныя нарады старшынь сельсаветаў аб працы з батрацтвам, ставячы даклады аб становішчы, выніках і далейшых задачах работы сельсаветаў і райвыканкомаў па абароне батрацтва.

6) На падставе гэтых паказаньняў зараз-жа даць усім РВК і сельсаветам практычныя заданьні аб узмацненьні работы па абароне батрацтва.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Комітэту БССР **А. Чарвякоў.**

Сэкрэтар Цэнтральнага Выканаўчага Комітэту БССР **А. Хацкевіч.**

1-га чэрвеня 1929 г.

**2. Пастанова Народнага Камісарыята Працы БССР. „Пра парадак устанаўленьня мінімальных ставак аплаты часовых рабочых у кулацкіх гаспадарках“.**

15 ліпеня 1929 г. № 52

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1) Мінімальныя стаўкі аплаты часовых рабочых, занятых у кулацкіх гаспадарках, на якія пашыраецца пастанова ЦВК і СНК СССР за 20 лютага 1929 г. „Пра парадак ужываньня КЗ аб працы ў кулацкіх гаспадарках“ (З.З. СССР 1929 г. № 14, атр. 117), незалежна ад спосабу аплаты (падзённа, зьдзельна ці за адработку), устанаўліваюцца раённымі выканаўчымі комітэтамі па паданьні раённых упаўнаважаных па працы, на падставе арыентыровачных ставак, якія вызначаюцца Прэзыдыумамі Акруговых Выканаўчых Комітэтаў, па паданьні Акруговых Інспэкцый Працы, узгодненаму з профсаюзам сельска-гаспадарчых і лясных рабочых.

2) Мінімальныя стаўкі ўстанаўляюцца для паасобных відаў работы (жніва, касьба) і для розных сэзонаў паасобна, за 8-мі-гадзінны рабочы дзень. За павялічаны (ня больш, як да 10 гадзін) рабочы дзень устанаўляюцца спэцыяльныя надбаўкі ня менш, як у разьмеры 1/3 часткі аплаты за 8-мі-гадзінны дзень. Стаўкі на работу, выконваемую ў сьвяточныя, паасобныя штотыднёвыя дні адпачынку ўстанаўляюцца ў падвойным разьмеры.

3) Наймальнікі, якія плацяць рабочым ніжэй за ўстаноўленыя стаўкі, прыцягваюцца да адказнасьці ў крымінальным парадку, паводле артыкулу 141 Крымінальнага Кодэксу БССР альбо ў адміністрацыйным парадку паводле пастановы ЦВК і СНК СССР за 2 студзеня 1929 г. (З.З. СССР 1929 г. № 4, арт. 31) праз накладаньне штрафу да 100 руб.

Народны Камісар Працы БССР **М. Гнілякевіч.**

Ст. Сельска Гаспадарчы Інспэктар **Л. Лашкевіч.**

Узгоднена з ЦП Саюзу Сельгаслесрабочых БССР—**Эльпэрын.**

**3. Па статчасцы.**

*Усім профорганізацыям Саюзу сельгаслесрабочых.*

18 ліпеня г. г. разасланы па ўсіх саюзных ячэйках статформы для прадстаўленьня ЦП Саюзу наступных матэр'ялаў:

**1) Аб вучоце членаў саюзу на 1 жніўня г.г.**

а) для сельрабачкомаў і сельупаўнаважаных—картка хуткага вучоту (статформа № 12), якую сельрабачкомы

запаўняюць на членаў саюзу па становішчу на 1 жніўня і адсылаюць не пазьней 5 жніўня ў Акраддзяленьня (а па Менскай акрузе ЦП Саюзу);

б) для рабачкомаў, мясцкомаў і профупаўнаважаных—картка куткага вучоту (статформа № 20), якую рабачкомы, мясцкомы запаўняюць у такім жа парадку, як і сельрабачкомы;

в) апрача гэтага як сельрабачкомы, так і рабачкомы і наогул усе саюзныя організацыі запаўняюць аднадчасова з карткай хуткага вучоту і картку складу членаў саюзу (форма ЦСПСБ) на нацыянальны склад членаў саюзу і адсылаюць гэтую картку разам з карткай хуткага вучоту не пазьней 5 жніўня ў Акраддзяленьня, а па Менскай акрузе ў ЦП Саюзу.

**2) Аб складзе рабачкомаў, мясцкомаў і сельрабачкомаў.**

а) Сельрабачкомы запаўняюць картку свайго складу (статформа № 14) па становішчу на 1 ліпеня і адсылаюць Акраддзяленьням, а па Менскай акрузе ў ЦП Саюзу, не пазьней 1 жніўня г.г.

б) Рабачкомы і мясцкомы запаўняюць картку свайго складу (статформа № 21) па становішчы на 1 ліпеня і адсылаюць такім жа парадакам, як і сельрабачкомы.

**3) Па вучоту працумоў, заключаных на батракоў.**

а) Сельрабачкомы і інш. саюзныя організацыі, якія займаюцца справай заключэньня працумоў, запаўняюць адпаведнымі зьвесткамі статформу № 17 і накіроўваюць не пазьней 1 жніўня ў акруговыя аддзяленьня, а па Менакрузе ў ЦП Саюзу.

Райінспэктарам Саюзу прапануецца прасачыць за тым, каб рабачкомамі і сельрабачкомамі сваечасова былі запоўнены ўсе блянкі, а дзе патрабуецца, то і дапамагчы ім у складаньні зьвестак.

УВАГА: *Усе* памянёныя блянкі і формы для ячэяк Менскай акругі высланы Цэнтральным Праўленьнем Саюзу непасрэдна ў адрэсы ячэяк, а па апошнім акругам будуць высланы для ячэяк Саюзу самімі Акраддзяленьнямі.

У канцы ліпеня па сельрабачкомам і рабачкомам будуць разасланы блянкі па вучоту трактарыстаў і рамонтных рабочых на 1 жніўня. Гэтыя блянкі таксама неабходна запоўніць адпаведнымі зьвесткамі і не пазьней 10 жніўня накіраваць у акраддзяленьня.

Сэкрэтар ЦП Саюзу **Шчевелёва.**

Кіраўнік спраў **Калядзенка.**

## Сельрабачкомы і рабачкомы!

Тэрмінова высылайце ў ЦП Саюзу недасланыя Вамі статматэр'ялы, якія Вы павінны былі прыслаць згодна бюлетэню ЦП № 5 (23).

**Выдавецтва ЦП Саюзу Сельгаслесрабочых БССР.**

Адказны рэдактар—*Вайтэнкаў.*
Намесьнікі яго: *Аскерка, Калядзенка.*

Галоўлітбел № 2082. Тыраж 1200. Друкарня Менцэнтрспраўдому.